*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
Якуб Колас

**№ 184 (1248)**

Аўторак, 2 кастрычніка 2001 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень

Кошт: у кіёсках і крамах — 120 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.


# Народная Воля

**НАДВОР'Е**

Сёння ўдзень па краіне захаваецца воблачнае з праясненнямі надвор'е, месцамі — кароткачасовыя дажджы. Вецер паўднёва-заходні, 5—10 м/с, месцамі парывы да 15—20 м/с. Тэмпература паветра ў Віцебску, Магілёве — +13...+15, Мінску, Гродне — +14...+16, Гомелі, Брэсце — +15...+17.

Надвор'е ў наступныя двое сутак: часам дажджы, вецер паўднёва-заходні, 4—9 м/с; 3-га — парывы да 12—14 м/с. Тэмпература паветра ўначы — +6...+10, удзень +11...+16, па поўдні — да +19.



**ПУЛЬС**

## Прэм'ер-міністрам Беларусі прызначаны Генадзь Навіцкі

**Ва ўрадзе мінулага складу Г.Навіцкі быў віцэ-прэм'ерам і курыраваў блок, у які ўваходзілі міністэрствы архітэктуры і будаўніцтва, сувязі, транспарту і камунікацый, па надзвычайных сітуацыях, жыллёва-камунальнай гаспадаркі, Дзяржкамітэт па авіяцыі, Камітэт па інвестыцыях пры Мінэканоміці, Камітэт па аўтамабільных дарогах пры Міністэрстве транспарту, Беларуская чыгунка і шэраг іншых структур.**

**Даведка БелаПАН.** Г.Навіцкі нарадзіўся 2 студзеня 1949 года ў Магілёве. У 1971 годзе скончыў Беларускі політэхнічны інстытут, інжынер-будаўнік.

10 жніўня 1994 года быў прызначаны міністрам архітэктуры і будаўніцтва Рэспублікі Беларусь, 11 мая 1998 года — намеснікам прэм'ер-міністра. З 6 кастрычніка 2000 года — прадстаўнік дзяржавы ў ААТ "Беларускі банк развіцця".

**БелаПАН.**

## "За ўратаванне мемарыяла Курапаты"

**Вядомыя грамадскія і культурныя дзеячы Беларусі ўвайшлі ў склад ініцыятывы "За ўратаванне мемарыяла Курапаты" і выступілі з заявай, у якой патрабуюць "тэрмінова спыніць будаўніцтва дарогі ў раёне Курапатаў".**

Аўтары заявы нагадваюць пра гісторыю Курапатаў — месца масавых расстрэлаў і пахаванняў ахвяр сталінскага рэжыму. "У 1988 — 1989 гг. дзяржаўная камісія на чале з генеральным пракурорам Тарнаўскім пацвердзіла, што ў Курапатах бязвінныя людзі былі знішчаны НКУС, — гаворыцца ў заяве. — Таму ў 1993 годзе ўрочышча было занесена ў Дзяржаўны рэестр гісторыка-культурных каштоўнасцяў Рэспублікі Беларусь як "месца згубы ахвяр палітычных рэпрэсій у 30 — 40-я гады XX стагоддзя". Курапатам быў нададзены статус першай катэгорыі гістарычна-культурных каштоўнасцяў". Аднак чарговая камісія правяла ў 1998 — 1999 гадах новае расследаванне, вынікі якога засакрэчаны дагэтуль.

Сёння, заяўляюць прадстаўнікі грамадскасці, "зноў узнікла небяспека страціць наш нацыянальны некропаль — Курапаты"; пашырэнне Мінскай кальцавой дарогі можа знішчыць магілы бязвінна забітых. У сувязі з гэтым ініцыятыва "За ўратаванне мемарыяла Курапаты" патрабуе: спыніць будаўнічыя работы; правесці дадатковыя археалагічныя даследаванні ў прыдарожнай зоне; пачаць неадкладны публічны дыялог адказных дзяржаўных структур з прадстаўнікамі ініцыятывы; абнародаваць вынікі паўторнага расследавання ў Курапатах; добраўпарадкаваць усё ўрочышча ў адпаведнасці са статусам помніка і стварыць належную ахову.

Сярод тых, чые подпісы стаяць пад заявай, — вядомыя беларускія пісьменнікі і паэты: Уладзімір Арлоў, Рыгор Барадулін, Васіль Быкаў, Ніл Гілевіч, Артур Вольскі, лідэр Федэрацыі прафсаюзаў Беларускай Уладзімір Ганчарык, акадэмік Нацыянальнай акадэміі навук Радзім Гарэцкі, былы спікер Вярхоўнага Савета Станіслаў Шушкевіч, лідэры шэрагу грамадскіх арганізацый — усяго каля 40 чалавек.

**Наталля КУЛАГІНА, БелаПАН.**

## Еўропа не страчвае надзеі вярнуць Беларусь

**Генеральны сакратар Савета Еўропы прыняў у Страсбургу дэлегацыю беларускай апазіцыі**

Як адзначыў Анатоль Лябедзька, "Вальтэр Швіммер вельмі цёпла адносіцца да Беларусі і добра знаёмы з праблематыкай нашай краіны". Швіммэр адзначыў, што меркаванні апазіцыйнага боку будуць улічаны пры распрацоўцы далейшай стратэгіі Савета Еўропы ў адносінах з Беларуссю.

Усяго дэлегацыя Вярхоўнага Савета правяла больш за 20 сустрэч у камітэтах, палітычных групах з асобнымі ўплывовымі палітыкамі Парламенцкай Асамблеі Савета Еўропы. "Палітычная кампанія пад назвай "прэзідэнцкія выбары" — гэта прыпынак, які мы праехалі. Мы павінны аналізаваць, але разам з тым мы павінны глядзець у заўтрашні дзень. Па-першае, мы б хацелі, каб была каардынацыя дзеянняў усіх міжнародных структур, каб гэта было ў фармаце рэзалюцыі, якая была прынята Кабінетам міністраў 25 верасня, а таксама рэзалюцыі, якая была прынята ў студзені гэтага года на ПАСЕ. Ма зацікаўлены, каб гэтыя дзеянні не выходзілі за рамкі двух дакументаў", — паведаміў Радыё "Свабода" Анатоль Лябедзька.

Таксама стала вядома, што ў сваёй выніковай рэзалюцыі ПАСЕ заклікала ўлады Украіны стварыць камісію па справе знікнення журналіста Георгія Гангадзе. Анатоль Лябедзька лічыць, што "ўключэнне ў выніковую рэзалюцыю пункта аб стварэнні камісіі па справе Гангадзе як мінімум азначае, што справы палітычных знікненняў і забойстваў не з'яўляюцца ўнутранымі справамі гэтых дзяржаў".

Паводле меркавання беларускіх удзельнікаў апошніх сустрэч у Страсбургу, "Савет Еўропы стварыў прэцэдэнт, які можа стаць матывам для стварэння аналагічнай камісіі па справе гучных палітычных знікненняў у Беларусі".

**Алесь СІЛІЧ.**

**ПРОТЕСТ**

# В Мозыре сельчан награждали автомобилями, а рабочим МТЗ не дали денег на хлеб



*Штурм: трактарозаводцам дают зарплату.*

Фото IREX/ProMedia.

**Рабочие Минского тракторного завода, как говорится, на своей шкуре познали законы диалектики, а именно: материя из ничего не возникает — она лишь переходит из одного состояния в другое.**

**Миллиарды рублей, выделенных на мозырские "сельхоздожинки", — надо было где-то найти. Найти деньги на зарплату рабочим удается не всегда.**

Денег в кассе МТЗ, этого монополиста, прямо скажем, не густо. Да и откуда им быть, если такторов продается не столько, сколько хотелось бы продавать.

В пятницу утром, так и не получив многократно обещанную заработную плату за август, рабочие вышли к заводскому "Белому дому". Площадь не вместила сотни недовольных: заводчане заполнили и прилегающую улицу Долгобродскую, таким образом перекрыв движение общественного транспорта.

А это уже — чрезвычайное происшествие. Причем событие сие на происки "продажной" оппозиции никак не спишешь: Александр Бухвостов — председатель отраслевого профсоюза — прибыл к месту волнений через полтора часа.

Городские власти в лице заместителя столичного градоначальника Николая Ерохина отреагировали на ЧП своим личным присутствием. Более того, похоже, что благодаря именно данному должностному лицу в отделении сбербанка по улице Чеботарева появились наличные деньги, и после обеда цехам 1, 2, 3-й очереди начали выдавать зарплату. Остальные цеха (4-я и 5-я очередь) получили деньги на следующий день — для МТЗ это была рабочая суббота).

Причины задержки руководители выдвигали самые фантастические. "Замполит" Николай Стукач обвинил банки, которые, мол, специально задерживают деньги и, проворачивая их, наваривают себе проценты. Главный финансист Валерий Бабарыкин гневно клеймил налоговые инспекции, подло снявшие деньги со счета МТЗ накануне дня зарплаты (напомню, что дата выплаты аванса по зарплате была 20 августа, а волнения рабочих начались лишь шесть недель спустя, 28 сентября. — **В.Щ.**). Сам же генеральный директор Михаил Леонов был в этот момент на сельхоздожинках в Мозыре.

**Валерий ЩУКИН.**

# На стакан хватит — и хорошо?

**Как ни странно, трамвайные пути загородили не мужчины, а... женщины в спецовках. Вот потом и не верь, что про нас, нежных, говорят: и в горящую избу войдет, и коня на скаку остановит**

К 12.30 серая толпа разрослась, и уже не только трамваи не смогли продолжить свой обычный маршрут, но и другой транспорт. Однако это ни сколько не смутило водителя 84-го маршрута автобуса, который решил, вероятно, попасть в Книгу рекордов Гиннесса и поехал прямо на людей. Увидев, что живая стена не расступилась, он остановил автобус, достал монтировку и стал ею размахивать в воздухе, угрожая опустить на голову того, кто помешает ему ехать дальше. Мужчины, разъяренные такой дерзостью борца за справедливость, схватили, хорошо намяли ему бока и засунули обратно в дом на колесах. Еще один водила не успел вовремя нажать на тормоза и проехал по ногам забастовщика, который от боли перекричал толпу.

Желание поскорее наполнить кошелек заветными бумажками и ненависть к власти, мешавшей реализовать это желание, породили много нелепых ситуаций. Какой-то мужчина трес туфлями жены, требуя выдать деньги на их ремонт. Две старушки вспомнили прошедшие выборы и сцепились в споре о том, кто лучше: Гончарик или Лукашенко. Глухонемые рабочие нервно беседовали на пальцах. Повсюду носились проклятья и благой мат. Асфальт украшали пустые бутылки и окурки. Бастующая толпа то разбредалась, то вновь собиралась, пополняясь прибывшими людьми. Она напоминала собой стадо овец, лишенных вожака, которые знают, чего хотят, но не знают, как этого добиться.

К 12.40 народ потребовал начальства и его объяснений. Оно же, словно испытывая терпение, долго не желало появляться, а появившись, начало задурманивать головы слащавыми обещаниями выдать деньги в понедельник. Но толпа взбунтовалась еще больше, и тогда начальство в течение получаса нашло где-то деньги. Их стали выдавать в сберкассе, куда переместились бастующие рабочие.

Естественно, "денежный дворец" не мог вместить всех желающих, поэтому его пришлось брать штурмом. На какое-то мгновение людьми овладел азарт, и они дружно налегли на двери, которые с треском подались вперед. Одни хватались обеими руками за дверные косяки, повисая на них, как на распятье, чтобы не быть снесенными озверелой толпой. Другие, сконцентрировав всю свою злость на ребятах в форме, якобы ограничивающих свободу действий, пытались "наштукатурить" их на стенку старого здания. Хрупкая девушка попыталась пробраться к кассе, но была вытолкнута из очереди такими же, как сама, после чего отошла в сторону со слезами на глазах. Ей было неудобно и непривычно выпрашивать свои честно заработанные деньги. Попытки зайти в сберкассу с обратной стороны не увенчались успехом. Нужно было втолкнуться в кишащую массу и дождаться своей очереди, так называемого счастливого конца. Кто-то, пыхтя сигаретой, закричал: "Мужики, если сегодня деньги не выдадут, завтра не выйдем на работу. Нам много не надо: на стакан хватит — и хорошо!". А на стакан, как вы знаете, обычно хватает всегда. Вот и получается, что мы с вами живем хорошо...

**Светлана ТЕРЕЩЕНКО, студентка-журналистка.**

# ДАЖЫМКІ

**Не ведаю, як каму, а мне падаецца, што многія ў нашай краіне перакананы: хлебам і відовішчамі можна вырашыць складанасці і цяжкасці эканомікі і нашага быцця наогул. Пра гэта думаецца кожны раз, калі трапляеш на буйнамаштабныя мерапрыемствы кшталту "Дажынак"**

**Анатоль ГАТОЎЧЫЦ**

Сёлета хлеб стаў агітацыйным сродкам у выбарчай кампаніі. Улетку вышэйшыя дзяржаўныя асобы абяцалі "хлебны дождж" на нашы галовы. Гучала лічба 7 мільёнаў тон збожжа.

Цяпер пра сем мільёнаў ніхто нават і не заікаецца. Віцэ-прэм'ер і кіраўнік аргкамітэта "Дажынак" Аляксандр Папкоў, адкрываючы ў пятніцу рэспубліканскі фестываль, нават не назваў канкрэтную лічбу атрыманага збожжа. Заявіў толькі, што валавы збор перавысіў леташні на 500 тысяч тон.

Назаўтра сам Аляксандр Лукашэнка сказаў, што ў краіне сабрана каля 6 мільёнаў тон.

Гомельская вобласць, якая прымала гасцей, таксама высокім вынікам не можа пахваліцца. Паводле звестак аблсельгасхарча, у рэгіёне намалочана 591,4 тысячы тон збожжа, альбо 17,8 цэнтнера з гектара. Недабор тлумачаць моцнай летняй спёкай. Павысіць валавы збор прыкладна на 20 тысяч тон гаспадаркі наважаны за кошт кукурузы, абмалот якой пакуль яшчэ не скончаны.

Зрэшты, пра слабенькі ўраджай можна асабліва і не турбавацца. У Мазыры Аляксандр Лукашэнка пахваліў гамельчукоў за іншы паказчык: вобласць забяспечыла яму 85-працэнтную падтрымку на выбарах.

Гродзеншчына, каб заняць першае месца, што называецца, у поце здабывала на жніве 1 мільён 200 тысяч тон збожжа.

### Глядзіце, хто прыехаў...

Кожная вобласць і Мінск везлі на "Дажынкі" ў Мазыр каля 80 хлебаробаў і кіраўнікоў рознага рангу — лепшых камбайнераў, кіроўцаў аўтамашын, старшыняў калгасаў, выканкамаў і іх намеснікаў.

Гомельшчына сустракала гасцей на сваіх межах. Як толькі два аўтобусы берасцейскіх хлебаробаў дабраліся да Жыткавіцкага раёна, іх перапынілі мясцовыя кіраўнікі і работнікі грамадскага харчавання. Частавалі гарэлкай, закускай і нават падаравалі радыёпрыёмнікі. Усім.

Падобны рытуал практыкаваўся і на іншых накірунках прыезду дэлегацый.

Мазыр сустрэў гасцей памаладзеўшым. Асабліва гэта заўважна ў цэнтры. На аднаўленне ягонай цэнтральнай часткі ўрад выдаткаваў амаль 2 мільярды рублёў. Пафарбаваны дамы і гарвыканкам, заменены шыферныя дахі на металачарапічныя, рэканструяваны Дом культуры, зроблены летні амфітэатр, укладзена тратуарная плітка, новы асфальт, паўз бойкія вуліцы ўстаноўлена адмысловая бетонная агароджа.

Уздоўж набярэжнай ракі Прыпяць размясціліся рознакаляровыя зборныя павільёны гандлю. Спатрэбілася 800 машын, каб прывесці ў Мазыр прадукты, абсталяванне, абслугу.

Асартымент забяспечвалі не толькі раённыя спажывецкія таварыствы, абласное дзяржаўнае прадпрыемства "Аблгандальсаюз", але і Мінскі завод ігрыстых він, фабрыкі "Камунарка", "Слодыч", "Спартак", "Чырвоны харчавік", Рэчыцкі піўзавод ды іншыя. Гандлёвае таварыства "Зубр" з Гомеля выставіла нават мясную закуску па-прэзідэнцку. Кіло — 6393 рублі.

Напачатку 14-й гадзіны ля гатэля "Прыпяць", дзе пасялілі хлебаробаў, выстраілася калона. Чалавек з паўтысячы. Наперадзе віцэ-прэм'ер Аляксандр Папкоў і міністр сельскай гаспадаркі Міхаіл Русы, "вертыкальныя" кіраўнікі Гомельскай вобласці. За імі — гаспадары, хлебаробы Мазырскага раёна, далей, паводле алфавіту, дэлегацыі ад усіх абласцей і раёнаў-пераможцаў — Іванаўскага, Докшыцкага, Рэчыцкага, Гродзенскага, Нясвіжскага, Касцюковіцкага.

Са сцэны віцэ-прэм'ер Аляксандр Папкоў выказаў падзяку "героям збожжавай нівы", усім, хто нястомна працаваў "на карысць нашага беларускага караваю, які закліканы забяспечыць кожнага грамадзяніна хлебам, і ўсім тым, што яму належыць паводле нашых беларускіх традыцый".

Камбайнеры і кіроўцы аўтамашын, заняўшыя першыя, другія і трэція месцы на жніве, атрымалі прызы — аўтамабілі, тэлевізары і халадзільнікі. На гэтым, уласна кажучы, ўсё і скончылася. Галоўныя героі "згубіліся" ў "Дажынках".

Канешне, іх вазілі паіць, карміць, начаваць, але для шырокай публікі іх асобы так і засталіся за сямю замкамі. Ну што, напрыклад, даведаліся людзі пра сямейны экіпаж Мікалая Мярэчкі з калгаса "Бальшавік" Іванаўскага раёна альбо пра такі ж экіпаж бацькі і сына Канібалоцкіх з калгаса-аргафірмы "Рассвет" Смалявіцкага раёна?

Нехта, магчыма, запярэчыць: так для пераможцаў і канцэрт ладзіўся.

Усё гэта так, але давайце паглядзім больш уважліва і на канцэртную праграму. Аргкамітэт вырашыў культурную праграму надзвычай проста: запрасіў у Мазыр зорак эстрады і калектывы мастацкай творчасці — і ўсё тут.

А што, уласна кажучы, унеслі яны ў свядомасць людзей пра здаўна існуючыя ў народзе дажынкі? Нешта я не бачыў ні аднаго жніўнага танца, ні аднаго карагода з нагоды заканчэння цяжкай працы. А чаму не відаць на "Дажынках" Багіні з вянком і снопам залатога калосся? Няўжо цяжка заглянуць ў кнігі даследчыкаў нацыянальных традыцый нашага краю, каб надаць святу хаця б нейкае адценне дажынкавага абраду? Нельга ж сапраўды лічыць працягам традыцыі тое, што, здаецца, Наталля Тамела здолела запрасіць на сцэну "вясковага" міністра Русага, і ён па-маладзецку прытанцоўваў, пакуль Наталля выконвала сваю песню.

"Дажынкі" на тое і свята, каб не ператвараць іх у грандыёзную, але банальную па сваёй сутнасці п'янку на адкрытым паветры.

### Чым сэрца супакоіць

На другі дзень "Дажынкі" ў Мазыры наведаў Аляксандр Лукашэнка. Візіт кіраўніка дзяржавы на сваё галоўнае свята быў надзвычай кароткім — усяго гадзіны на тры.

Высокі госць паведаміў мазыранам, што не мог не прыехаць на "Дажынкі". Акурат вяскоўцы безагаворачна падтрымалі яго на выбарах. Лукашэнка дзякаваў усім, хто дапамагаў вёсцы. Згадаў нават пра чыгуначнікаў, вайскоўцаў, прадпрымальнікаў. Ён пераконваў вяскоўцаў, звезеных на "Дажынкі" з усіх рэгіёнаў краіны, што прасіць падмогі за сваю працу не сорамна.

Ён наогул перакананы, што цяперашняя эканамічная палітыка правільная. Пацвярджэнне таму — вынікі прэзідэнцкіх выбараў. Рэформамі, як сказаў Лукашэнка, зямлю не ўзарэш і карову не падоіш.

Тым не менш здабыткі сёлетняга ўраджаю кіраўніка дзяржавы не зусім задавальняюць.

— Для таго, каб нармальна жыць і хадзіць з горда ўзнятаю галавою, — сказаў Аляксандр Лукашэнка, — нам трэба атрымліваць 10 мільёнаў тон хлеба ў год. Нам трэба вырошчваць мяса да кілаграма ў суткі — такія павінны быць прывагі. І нам трэба надойваць 5 тысяч кілаграмаў малака на карову. Як толькі мы гэтага дасягнем, тады не будзе папрокаў ні з майго боку да асобных кіраўнікоў і спецыялістаў, і вы ўсе не будзеце мець да мяне і дзяржавы прэтэнзій.

### "Дажымкі"

Гэтае злёгку мадэрнізаванае слова я пачуў таксама ў Мазыры. Ім прамыслоўцы характарызавалі сутнасць "Дажынак". Каб правесці гэтае відовішча, спатрэбілася амаль 5 мільярдаў рублёў. 2 мільярды адпусціў урад, 400 мільёнаў — аблвыканкам. Астатнія трэба было знайсці на прадпрыемствах, у арганізацыях і філіях банкаў.

Важкія сумы грошай атрыманы ад ААТ "Мазырскі нафтаперапрацоўчы завод", прадпрыемства транспарціроўкі нафты "Дружба".

Больш як паўмільярда рублёў горад завінаваціўся будаўнікам за праведзеную рэканструкцыю. Што называецца, павіслі ў паветры выдаткі за 5-кіламетровую асфальтавую дарогу да саўгаса-камбіната "Зара", куды меўся завітаць, але не заехаў, галоўны госць "Дажынак".

А колькі сродкаў прыйшлося ахвяраваць на падарункі! Аб'яднанне "Гомсельмаш", у прыватнасці, падарыла кормаўборачны камбайн калгасу "50 год Кастрычніка" Рэчыцкага раёна. Беларускі металургічны перадаў вяскоўцам трактар МТЗ. За ўсім гэтым — значныя сумы.

І вось што характэрна: "аброк" прыходзіцца аддаваць як мінімум тры разы ў год: вясною, каб вяскоўцы змаглі пасеяць, улетку, каб убралі, увосень, каб пагулялі. Адным словам, "дажымаюць" і на хлеб, і на відовішча.

Між тым рэальных крокаў эканамічнага абнаўлення аграпрамысловага комплексу пакуль не бачна. Заблытанай застаецца сістэма фінансавання АПК. Ні ў якія вароты не лезе цэнаўтварэнне: у вяскоўцаў прадукцыя прымаецца за вельмі смешныя цэны, а ў рознічным гандлі яна ў 2—3 разы даражэй.

Гаспадаркі звязваюць да таго ж па руках і нагах шматмільённыя "старыя" даўгі. Калі вёску не вызваліць яшчэ і з гэтых пут, то ніякія фінансавыя "дажымкі" пампезныя "Дажынкі" не выратуюць.



## Міхаіл Шалеў прызначаны намеснікам дзяржсакратара Савета Бяспекі Рэспублікі Беларусь

Міхаіл Шалеў нарадзіўся ў 1949 годзе ў расійскім горадзе Тула. У 1970 годзе скончыў Казанскае вышэйшае танкавае вучылішча, у 1978 — Ваенную акадэмію бронетанкавых войскаў, у 1987 — Ваенную акадэмію Генштаба. Праходзіў службу ў танкавых і мотастралковых войсках. Камандаваў узводам, ротай, батальёнам, палком, дывізіяй. Быў начальнікам штаба агульнавайсковай арміі і начальнікам Мінскага вышэйшага ваеннага каманднага вучылішча. З мая 1995 года працуе ў дзяржсакратарыяце Савета Бяспекі Беларусі, апошнія тры гады — на пасадзе начальніка аддзела. Генерал-маёр запасу.

**БелаПАН.**

СПАРТЫЎНЫ АГЛЯД

# Мёд, дзёгаць, фартэль, прычэп...

## Беларускія каманды па-ранейшаму мусяць праводзіць свае хатнія матчы на выездзе

Мы неяк прызвычаіліся да гэтай ненармальнай з'явы. Хранічны недахоп сродкаў вымушае тых жа, напрыклад, гандбалістаў практычна ў кожным сваім міжнародным старце карыстацца такім вось сумным "ноу-хау", што практыкуецца толькі ў нашым спорце. Але гэта не так кідаецца ў вочы, таму што пасля аднаго-двух тураў у розыгрышах розных еўрапейскіх кубкаў яны, прайграўшы, даволі хутка завяршаюць сваё выступленне. А вось як быць баскетбалістам гродзенскай каманды, якая, здаецца, і грошы мае на паездкі, але ўсё роўна вымушана прымаць гасцей на пляцоўцы замежнай краіны — літоўскага Алітуса?

З якімі цяжкасцямі лепшы клуб "Гродна — 93" усё ж трапіў у спіс удзельнікаў прэстыжнага турніру Паўночна-Еўрапейскай баскетбольнай лігі, колькі каштавала здароўя яго "прабіццё" былому губернатару Гродзенскай вобласці Аляксандру Дубко, міністру беларускага спорту Яўгену Ворсіну, — і ўсё кату пад хвост. Не, гродзенцы прымуць удзел у чэмпіянаце ПЕБЛ, дзе сустрэнуцца два разы, на папярэднім этапе з камандамі "Энергія" — Германія, "Хонка" — Фінляндыя, "Адэса" — Украіна, "Сконта" — Латвія, "Калеў" — Талін, "Палонія" — Варшава, "Олівер" — Германія, "Аліта" — Латвія. Але першыя два стартавых паядынкі супраць эстонцаў і фінаў падапечныя Аляксандра Барысава згуляюць не дома, як запісана ў календары.

Справа ў тым, што Гродна аказалася непадрыхтаваным да спаборніцтваў такога высокага рангу. Дагэтуль не набыты спецыяльны памост, няма нават баскетбольных шчытоў, адсутнічае дамоўленасць на тэлетрансляцыі і гэтак далей. Хаця спартыўнае кіраўніцтва вобласці добра ведала пра гэта загадзя, а новы "галава" Гродзеншчыны Уладзімір Саўчанка даслаў у аргкамітэт факс, што горад гатовы прыняць вялікі баскетбол. Выходзіць, схлусіў?

Як там будзе далей, справа цёмная. Набудуць і ўсталююць гродзенцы гэты самы памост, ці не — іх турботы. Толькі здарылася так, што свята, да якога рыхтаваліся таксама аматары баскетбола ўсёй рэспублікі, сарвалася. Чаго ж тады было марнаваць столькі часу, моцы, прасцей кажучы, дурыць мазгі таму ж камісару Лігі Шарунасу Марчулёнісу? Гулялі б сабе паціху ў чэмпіянаце рэспублікі і не высоўваліся. А так атрымліваецца, што нам пайшлі насустрач, а мы зноў выкінулі фартэль. Вядома ж, страціць рэпутацыю вельмі лёгка. Відаць, нам да гэтага не прывыкаць. І, як заўжды, можам без цырымоніі сапсаваць любую бочку мёду.

## Чэмпіён Еўропы па трак-трыяле мінскі МАЗ-"Яравіт" з кожным стартам пацвярджае свой высокі клас і набывае ўсё больш пашаны

Не сталі выключэннем і міжнародныя спаборніцтвы, якія праходзілі ў мінулыя выхадныя пад Мінскам — апошні этап чэмпіянату Садружнасці. Некалькі год таму кар'ер Ленінскі, што пад Стайкамі, наведвалі каля сотні тысяч мінчан. Тады беларускія спартсмены толькі марылі аб поспехах на гэтым чэмпіянаце і першынстве Еўропы. Але вынікі былі сціплымі. Зараз у катэгорыі S-4 ім ужо няма роўных.

Двойчы лепшымі ў Старым свеце станавіўся экіпаж Пятра Орсіка і Дзмітрыя Кнігі. У сёлетнім сезоне іх добра падтрымалі сябры па камандзе Сяргей Крук і Дзмітрый Запарошчанка, віцэ-чэмпіёны кантынента. Крыху слабей выступае яшчэ адзін наш экіпаж (Віктар Маскоўскіх — Андрэй Рудніцкі, катэгорыя S-3 ), але і ён мае шмат перамог на міжнароднай арэне.

Здавалася, увага да трак-трыялу з боку жыхароў сталіцы і Мінскага раёна павінна была расці ледзь не з геаметрычнай прагрэсіяй: перамога каго-небудзь з аўтазаводцаў была гарантаванай. Але нечакана аказалася, што інтарэс да цікавага відовішча ў параўнанні з мінулымі гадамі значна скараціўся. Не дапамагло нават і новаўвядзенне — карусельная гонка, якая надае больш дынамікі ў спаборніцтвах. Арганізатары былі ўпэўнены, што гледачоў не страцяць, але выйшла наадварот. Хочацца ім параіць падумаць, якім чынам набыць іх значна больш. Пакуль, на жаль, аргкамітэт зноў дэманструе няўменне рабіць сапраўднае шоу, якое прывабіла б усіх.

А мы віншуем МАЗ — "Яравіт" з паспяховым заканчэннем чарговага сезона і жадаем перамог у будучым.

## Жаночая зборная Беларусі па таэквандо заняла 5-е месца на кубку Еўропы ў Хельсінкі

Нашы дзяўчаты рэальна прэтэндавалі на медаль, але не змаглі зрабіць той самы апошні крок да яго, прайграўшы француженкам. Не першы раз таленавітай камандзе крыху чагосьці не хапае, каб узысці на п'едэстал. Новы від спорту толькі набірае тэмп і таму сустракаецца са шматлікімі аб'ектыўнымі, і не толькі, складанасцямі на сваім шляху.

Напрыклад, Міністэрства спорту Беларусі павінна ў гэтым сезоне прадаставіць зборнай для трэніровак у час збораў 3670 чалавекадзён. Замест гэтага галоўная каманда краіны атрымала толькі 140... А гэта вельмі ўплывае на майстэрства. Бюджэт, запланаваны на гэты алімпійскі від спорту (у ім разыгрываюцца 12 камплектаў узнагарод), скараціўся на працягу дзевяці месяцаў ледзь не ў тры разы. Толькі некалькі разоў лепшыя спартсмены маглі з'ездзіць за кошт дзяржавы на абавязковыя для Федэрацыі буйныя міжнародныя спаборніцтвы. Каб сэканоміць, дабіраліся не самалётам альбо цягніком, а звычайным аўтобусам. Так танней!

І вось зараз не знайшлося грошай нават на аўтобус. Тады галоўны трэнер Анатоль Ліхадзіеўскі вымушаны быў пасадзіць усіх членаў каманды і аднаго суддзю ў асабісты аўтамабіль ды везці іх у зусім не блізкую Фінляндыю. Можаце сабе ўявіць, у якім фізічным стане знаходзіліся нашы дзяўчаты напярэдадні паядынкаў! Тут некалькі дзён патрэбна было толькі яшчэ ногі распрамляць, а не падымаць іх у паядынках!..

Цікава, што бліжэйшыя суседкі фінаў шведы, якіх нашы, дарэчы, без усялякага адпачынку " прыбілі" ў першым крузе з лікам 3:1, прыляцелі на Кубак на самалёце, хаця маглі б скарыстацца таксама асабістым транспартам.

Былі ў зборнай Беларусі яшчэ, на першы погляд, невырашальныя пытанні перад самым ад'ездам, але іх зноў, у каторы раз, аператыўна вырашылі дырэктар РВШСМЕ Валерый Дубаневіч і прэзідэнт Федэрацыі таэквандо Алег Меджытаў...

Напрыканцы кастрычніка чэмпіянат свету пройдзе ў Паўднёвай Карэі. І калі Ліхадзіеўскі зноў надумае везці мужчынскую і жаночую зборныя на турнір, дык павінен ужо зараз паклапаціцца аб бензіне і купіць сабе прычэп. Ды і ехаць ужо трэба. Шлях няблізкі...

**Уладзімір ДАЎЖЭНКА.**

## ПРА КАСТРЫЧНІК

Ад Пакрова (14 кастрычніка) трэба даваць сена карове.

Гром у кастрычніку — зіма без снегу, а навальніца — кліча зіму марозную.

Калі 9 кастрычніка дождж са снегам — у студзені могуць тройчы быць адлігі, сонечна і цёпла — чэрвень будзе дажджлівы і халодны.

Калі 13 кастрычніка снег не выпадзе, зіма не скора настане, а калі 14 кастрычніка вецер з усходу падзьме — будзе халодная і марозная зіма.

Калі снег выпадзе да 14 кастрычніка — зіма не хутка настане.

Калі да палавіны кастрычніка з бярозы лісце не ўпала, то снег ляжа позна.

Калі ў сярэдзіне кастрычніка падзьмуць моцныя вятры — зіма халоднай будзе.

Калі ў кастрычніку лістапад прайшоў хутка — то чакай хуткай сцюжы, а зіма будзе суровай; калі ж лісце застаецца зялёным і доўга трымаецца на дрэвах, — зіма будзе кароткая, з невялікімі маразамі.

Кастрычнік — месяц кахання. З даўніх часоў на Белай Русі ў гэты час, пасля заканчэння восеньскіх работ, вяселлі гулялі.

Калі ў першыя дні кастрычніка з вышыні даносіцца звонкі кліч гусіных і жураўліных чародаў, патрэбна чакаць хуткага наступлення доўгай і халоднай зімы.

Не выпадзе снег у першай палове кастрычніка — не будзе яго й да сярэдзіны студзеня.

Непагодны кастрычнік — да ўраджаю, а туманы ў лістападзе — да позняй вясны.

У кастрычніку для грыбнікоў радасць апошняя — збіраюць радоўкі, чарнушкі, казлякі, зелянушкі, сыраежкі, валнушкі.

**Сабраў А.РУСЕЦКІ.**
**("Дзень за днём").**

## Мысли в рифму

**Символичность**
Сперва расправа над гербами,
А после... дело за горбами.

**Указ**
Что б не взбунтовался весь народ,
Следует заткнуть голодным рот.

**Дань мастерству**
Умер палач,
А клиенты — в плачь...

**Дирижеру**
Маэстро, не свирепствуйте за пультом,
Свирепые подвержены инсультам.

**Памятка холуям**
Став холуём, будь им сполна,
Иначе грош тебе цена.

**За что боролись...**
Приходила смерть и за большевиком,
Не с косою, а с серпом и молотком...

**Божья кара**
Киллер за все расплатился сполна —
Сонный сгорел от окурка спьяна.

**Зазывала**
Народ на баррикады зазывает,
А сам туда явиться забывает.

**Памятка журналисту**
Осторожнее с памфлетом,
Если цензор с пистолетом.

**О хоровом пении**
Народ, лишенный голоса, наверно,
И гимн споет фальшиво и неверно...

**Попустительство фортуны**
Фортуна наделяет булавою
Тех, у кого неладно с головою.

**Для пользы дела**
Делец использует друзей,
Как повар уток и гусей...

**Анатолий ЦЫРКУНОВ.**



ЧАСТНЫЕ ОБЪЯВЛЕНИЯ
ПРОДАЮ
Лошадь рабочую
Тел.: 215-38-71



## Вторник, 2 октября

### БТ

06.30, 07.10 Доброе утро, Беларусь!
07.00, 09.00, 12.00, 15.00, 18.00, 23.10 Новости.
09.15 **"Морская полиция".** Сериал.
10.00 Арсенал. Программа об армии.
10.25 Стадион.
11.00 **"Человек моря".** Сериал.
11.45 Фильмы братьев Люмьер (Международный французский канал).
12.15 Добрый день, Беларусь!
13.00 Г.Макарова в мелодраме **"Осенние сны"** ("Беларусьфильм").
14.20 Док.сериал "Сокровища мировой культуры"(Германия).
15.15 "Приятного аппетита, дети!" Док. сериал для детей (Международный французский канал).
15.30 "Все на орбиту!" Познавательный сериал для детей (Международный французский канал).
15.40 **"Маленькие Эйнштейны".** Сериал для детей (Германия).
16.05 "Пять чудес".
16.15 "5 х 5". Информационно-развлекательная программа для старшеклассников.
17.00 **"Морская полиция".** Сериал (Австралия).
18.20 Зона Икс.
18.30 Док.фильм "Театральная провинция".
18.55 Худ.фильм **"Собаки не рожают кошек".** (Международный французский канал).
20.40 Колыбельная.
21.00 Панорама. Информационный канал.
21.40 **"Человек моря".** Сериал.
22.30 Спорт-курьер.
22.40 Ток-шоу "Дела житейские".

### ОРТ

08.00, 17.00 Новости.
08.15 **"Земля любви".** Телесериал.
09.15 **"Каменская".** Телесериал. **"Стечение обстоятельств".** 2-я серия.
10.20 "С легким паром!"
10.50 "Библиомания".
11.00, 14.00 Новости (с сурдопереводом).
14.15 "Один дома".
14.35 "Царь горы".
15.00 **"Цыган".** Телесериал. Заключительная серия.
16.00 "Большая стирка".
17.25 "Спасатели. Экстренный вызов".
18.00 **"Земля любви".** Телесериал.
19.00 "Слабое звено". Телеигра.
20.00 "Время".
20.30 "Пятый угол".
21.40 "Кремль-9". "Последний день Сталина".
22.30 "Ночное "время".
23.00 "Цивилизация".
23.35 Сериал **"Угол атаки".**

### РТР

8.00, 10.00, 19.00 "Вести".
08.15 **"Семейные тайны".** Телесериал.
09.10 "Диалоги о животных".
10.30 **"Санта-Барбара"** (США). Телесериал.
16.00, 22.00 "Вести + Подробности".
16.30 Теннис. Международный турнир "Кубок Кремля-2001".
18.00 **"Воровка".** Телесериал.
19.35 "Местное время". "Вести-Москва".
19.55 "Русский телевизионный роман". **"Семейные тайны".** Телесериал.
20.55 Документальный фильм "Один день в сентябре".
22.30 "Местное время". "Вести-Москва".
22.45 Детектив **"Шах королеве бриллиантов".**
00.30 Дневник Международного турнира по теннису "Кубок Кремля-2001".
01.00 Прогноз погоды.

### КУЛЬТУРА

07.00 Программа передач.
07.05, 11.30, 17.30, 23.00 "Новости культуры".
07.30 Комедия **"Медведь".**
08.15 Музыка барокко в Патриарших палатах Московского Кремля.
08.40 "Игра на палитре в четыре руки".
09.15 "Золотой пьедестал".
09.40 "Обезьяний остров". Документальный фильм.
10.20 "В вашем доме".
11.00 "Мальчик-с-пальчик", "Слон и моська". Мультфильмы.
11.45 **"Демидовы"** (Свердловская киностудия, 1983). Художественный фильм. 2-я серия.
13.00 В.Шукшин. "Миль пардон, мадам!" Исполняет — Михаил Ульянов.
13.30 "Вместе с Фафалей".
13.45 "Дело житейское".
14.15 "Власть факта".
14.30 Теннис. Международный турнир "Кубок Кремля-2001".
15.00 Новости.
15.10 Теннис. Международный турнир "Кубок Кремля-2001".
16.00 "Сценограмма".
16.30 "Российский курьер".
17.00 "Сверхнаука". "В микромире".
17.50 "Дворцовые тайны". "Китайский дворец в Ораниенбауме".
18.15 "Цитаты из жизни". Академик Георгий Арбатов.
18.55 "Спокойной ночи, малыши!".
19.10, 20.30 Концерт Государственного камерного оркестра "Виртуозы Москвы" и камерного оркестра "Солисты Москвы".
20.05 Документальный фильм.
21.25 Комедия **"Медведь".**
22.30 "Форма".
23.20 Программа передач.

### НТВ

05.00, 05.30, 06.00, 06.30, 07.00, 07.30, 09.00, 11.00, 13.00, 15.00, 18.00, 21.00, 23.05 Сегодня.
05.15, 06.20, 13.25, 17.40 Криминал.
05.20, 07.15 Впрок.
05.35, 06.40, 13.40 Афиша.
05.40 Наши любимые животные.
05.45 Пять минут с Новоженовым.
05.50, 06.50 Большие деньги.
06.35, 07.40 Карданный вал.
06.45, 07.45 Пять минут с Новоженовым.
07.25 Наши любимые животные.
07.55 Сериал **"Дальнобойщики".**
09.25 "Большой секрет для маленькой компании".
10.25 Путешествия натуралиста.
11.25 **"Будни и праздники Серафимы Глюкиной".** 2-я серия.
13.50 Ток-шоу "Просто Марина".
15.30 Сериал **"Салон красоты".**
16.40 Сериал **"Скорая помощь".**
18.35 Герой дня.
18.55 Сериал **"Дальнобойщики".**
20.00 Алчность.
21.55 Сериал **"Скорая помощь".**
23.30 Гордон.

### TV-6

05.45, 14.35, 17.40, 00.30 Дорожный патруль.
06.00, 06.30, 07.00, 07.30, 08.00, 10.00, 12.00, 14.00, 16.00, 18.00, 20.00 Сейчас.
06.10, 06.40, 07.10 День за днем.
07.40 Тушите свет.
07.50 Назло.
08.25 Детектив **"Сыщик",** 1-я серия.
09.40, 12.20, 14.25 Телемагазин в Минске.
10.25 Сериал **"Улицы разбитых фонарей".**
11.30 Катастрофы недели.
13.20 Сериал **"Женщина с характером".**
14.50 100 чудес света. "Остров гигантских медведей".
16.35 Сериал **"Бандитский Петербург".**
18.50 Сериал **"Бандитский Петербург".**
20.30 Тушите свет.
20.45 Сериал **"Улицы разбитых фонарей".**
22.00 Грани.
22.40 Фильм-катастрофа **"Щупальца".**

### СТВ+RenTV

15.00 Новости СТВ.
15.15 Кулинарные рецепты от ресторана "Лесной".
15.30 **"Мурашки".** Сериал.
16.00 "Кот по имени Ик". Мультсериал.
16.30 "Икс-мен". Мультсериал.
16.55 "Чертенок". Теленовелла.
18.00 Новости СТВ.
18.15 Международные спортивные новости на СТВ.
18.30 "Здравствуйте, доктор!"
18.45 "Автопанорама".
19.00 Информационно-аналитическая программа "Тема дня".
19.10 "Премьер-парад. Столичный". Юмористическая программа.
19.15 "Вечарница".
19.30 Триллер **"Кидалы".**
21.45 **"Подозрение".** Сериал.
23.00 Новости "СТВ — 24 часа".
23.30 "Виртуальный мир".
23.45 Драма **"Влияние гамма-лучей на рост маргариток".**
01.45 Музыкально-развлекательная программа "Ночной разговор с Алексеем Лушниковым".

**Адрас рэдакцыі:**
220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Прыёмная: (017) 206-68-71.
Тэл./факс рэкламнага аддзела: 206-69-04.
E-mail : nv@irex.minsk.by
http://nv.promedia.minsk.by

**Індэкс 63222.**

Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф СЯРЭДЗІЧ

У сувязі з адсутнасцю магчымасці рэдакцыя матэрыялы не рэцэнзуе і не вяртае, права ўступлення ў перапіску пакідае за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай.
Рэгістрацыйнае пасведчанне №246. Нумар газеты надрукаваны з дыяпазітываў у ПП "Мэджык". Адрас: г. Мінск, вул. Кнорына, 50. Падпісаны ў друк у 15.00. Фармат А-2. Тыраж: 41 600 экз. Заказ № 778.